


Восень у Міхалове. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 46 (1109) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 12.XI.1978 г.

П. Кавалёў

# Як Вадзік з татам голуба ўратавалі

У саменькім зацішным куточку балкона пасяліліся жыць галубы. Двое. Гняздзечка сабе там змайстравалі. Ранічкай прачнецца Вадзік і, не адчыняючы дзвярэй, каб не спудзіць галубоў, збоку, з-за вушака, любуецца імі. Пасля за вучобу бярэцца. Ён жа ў першы клас пайшоў.

Вечарам, як ужо добра сцямнее, галубы прылятаюць у сваё гняздо. Доўга буркуюць, круцяцца, топчуцца на адным месцы. Тады Вадзік больш смела і доўга назірае за птушкамі.

Адным такім вечарам падышоў Вадзік да акна, прымасціўся зручней і давай сачыць за паводзінамі галубоў. Прыгледзеўся. Галубка жвава ўхапілася дзяўбаць прасяную кашу. Вадзік ажно цэлыя прыгаршчы сыпнуў яе на балкон. А галубок сядзіць і не варушыцца. Быццам яго ані не кранае, што сяброўка адна ласуецца такім смачным наедкам.

Вадзіка гэта зацікавіла. Нават занепакоіла. Няўжо галубок нездаровы?

Вадзік адышоў ад балкона і падаўся да бацькі.

— Тата, а ты ведаеш? — устурбавана сказаў Вадзік.

Ён не знаходзіў слоў, каб выказаць сваю трывогу, толькі настойліва цягнуў бацьку за руку праз калідор у другі пакой, да балкона.

— Вось бачыш, ну, бачыш? — з-за вушака паказваў Вадзік бацьку голуба. — Ён жа да кашы нават не дакрануўся... Я сам гляджу... Толькі галавою ціха паварочвае...

Бацька прыхінуўся да сцяны. Яму адразу кінулася ў вочы, як па-рознаму паводзяць сябе птушкі. Галубка жвавая, на месцы і хвіліны не пастаіць, а голуб — наадварот, быццам прыклеены да балкона.

Вадзік узняў вочы на бацьку. Засмучана спытаў:

— Ну? Што будзем рабіць? Мо яму ногі хто пакалечыў? — з трывогай у голасе запытаў Вадзік.

Бацька паціснуў плячыма.

— А мо крыло якое перабіта? — не сунімаўся хлопчык.

— Трэба агледзець яго як след, — спакойна адказаў бацька.

— То давай? Га? — Вадзік падаўся да дзвярэй балкона.

— Пачакай, — спыніў яго бацька. — Яшчэ скінецца ад перапуду і разаб'ецца. Вось зусім сцямнее, — супакоіў сына бацька, — і мы тады спакойна агледзім яго. Як цёмна, птушкі не палохаюцца і не ўцякаюць...

Вочы хлопчыка ажно пашырэлі ад цікаўнасці. Выходзіць, бацька ведае, як найлепш памагчы птушцы.

— Ты вось што, Вадзік, — пачуў ён, — падрыхтуй лекі... Ну, ёд ці зялёнку, а можа, і таблетку стрэптацыду...

Вадзік кінуўся выконваць бацькаў загад.

Позна вечарам, калі ўжо добра сцямнела, бацька і сын узяліся за лячэнне.

Ціхенька адчынілі балконныя дзверцы. Зрабіць гэта было не

цяжка, бо адчыняліся яны ў сярэдзіну пакоя. Асцярожна ўзялі галубка. Ён быў шэранькі, а сяброўка яго — шэрая з белымі крапінкамі на абодвух баках, — сядзела ўжо на гняздзе. Голуба трымаў абедзвюма рукамі Вадзік. Галубок не варушыўся нават. Але, як унеслі ў пакой, дзе свяціла электрычная лямпачка, ледзьве не вырваўся ў Вадзіка з рук. Падаспеў бацька і ўзяў шэранькі камячок у свае рукі.

— Давай аглядаць, — сказаў Вадзіку бацька.



Глядзелі ўважліва. Спачатку адну, потым другую нагу. Нічога не заўважылі. Потым адтапырвалі, аглядалі і абмацвалі крылы. Голуб паводзіў сябе спакойна. Калі б дзе яму балела, ён бы не вытрываў.

— Здаровы, здаецца, — сказаў урэшце бацька. — Мо ўнутры што ў яго хворае.

Вадзік толькі зіркаў вачанятамі то на голуба, то на бацьку, бо нічога не зразумеў з іх агляду.

— Ты вось што, — зноў спакойна загаварыў бацька, — вазьмі чвэртку таблеткі стрэптыцыду і разатры ў парашок...

Вадзік тут жа выканаў загад бацькі.

— А цяпер прынясі лыжачку не халоднай, але і не гарачай вады...

Вадзік і гэта зрабіў як найхутчэй.

Яны ўсыпалі парашок у ваду і падрыхтаваліся ўліць лекі ў рот голуба. Бацька аберуч трымаў голуба, а Вадзік павінен быў расшчапіць дзюбу і ўліць у яе лякарства.

Як толькі Вадзік узяўся за дзюбку голуба, той закруціў галавою і пачаў вырывацца з рук.

— Чакай, — папрасіў бацька. — Разам з голубам ён сеў ля стала і бліжэй падсунуў да сябе настольную лямпу. Голуба ён заціснуў паміж ног, а рукамі ўзяўся за дзюбку і расшчапіў яе на ўсю шырыню, Вадзік ліну лекі, але бацька дзюбку не адпускаў, а глядзеў і глядзеў у горлачка голуба.

— Эге, — брат, — загаварыў ён нарэшце. — З голубам нашым бяда, глядзі, — паказаў ён Вадзіку вачамі. — У яго ў роце нешта чорненькае, не сваё...

— Мушка, бачу, мушка! — усклікнуў Вадзік, углядаючыся ў разяўленую дзюбку.

Давялося бацьку і сыну рабіць голубу аперацыю. У яго ў роце зачапіўся невялічкі кручок з насаджанай на яго мушкай.

Асцярожненька, пінцэтам, Вадзікаў бацька выняў з горлачка голуба рыбацкі кручок. Спатрэбіўся і ёд. Ім акуратна змазалі ранку.

Як толькі аперацыя скончылася і Вадзікаў бацька выпусціў з рук голуба, той некалькі разоў крутнуў галавою у адзін, у другі бок. Потым нахіліў галаву ўніз, узняў угору. Няйначай, ён, адчуўшы палёгку, дзякаваў абодвум за дапамогу.

Ул. Мяжэвіч

# Чые дрэва цікавейшае?

Калі ў гуртку сяброў прыроды зайшла гаворка пра вывучэнне цікавых дрэў, то ўсе Аленчыны сябры стараліся „захапіць“ сабе самыя прыгожыя дрэвы — клён, ліпу, бярозу, дуб, а некаторыя пагналіся нават за экзатычнымі. Алёнка ж сказала тады: „А мне таполю“.

— Таполю? — здзівіўся Сярожа, сын лесавода. — Звычайную таполю, што ў парках высякаюць з-за пуху? А што цікавае пра яе можна расказаць?

— Думаю, шмат! — вырвалася ў Аленкі.

На сход гуртkоўцаў завітаў дырэктар школы Мікалай Фёдаравіч. Прыйшоў і Сярожаў тата дзядзька Апанас.

Стараста гуртка Генадзь аб'явіў:

— Будзем выступаць. Хто пачынае першы?

Падняла руку Аленка.

— Я раскажу пра таполю. Клёну, бярозе шанцуе. Пра іх паэты складаюць вершы, кампазітары пішуць песні...

— І пра таполю ёсць, — уставіў Сярожа.

— Адна, праўда. А пра бярозу — дзесяткі! Сасну, елку лесаводы гадуюць у гадавальніках, перасаджваюць у глебу, шануюць, берагаюць. А таполя? Уторкнуць у зямлю дубец, а там — хочаш расці, не хочаш — памірай!

Ва ўсёй краіне не знайсці такога лесавода, які ад свайго пасеву дачакаўся б ураджаю. Калі гэта дуб, сасна, дык толькі ўнукі карыстаюцца працай дзеда. А кожнаму ж чалавеку хочацца бачыць плён сваёй працы.

Яшчэ ў Старажытнай Грэцыі цыркі, пляцоўкі, берагі азёр, вуліцы і дарогі абсаджвалі дрэвам папулюс, што азначае народнае дрэва. У папулюса рыхлая, нізкаякасная драўніна. Яна не знаходзіла выкарыстоўвання, яе нельга было параўнаць з дубам ці бярозай. Гэта была таполя, і лічылася яна лясным пустазеллем.

Можа, так было б і далей, ды людзі навучыліся надаваць рэчам новыя ўласцівасці. Калі на заводах пачалі прасаваць драўніну, высветлілася, што пліты з таполі не горш за дубовыя па цвёрдасці і трываласці. Але ж таполя расце куды хутчэй за дуб! Там, дзе дубу трэба сто гадоў, таполі хопіць і дзесяці!

А на выраб паперы ідуць аднагадовыя парасткі таполі. Вясной пасадзіў, а восенню збірай ураджай.

— Яшчэ антычныя грэкі ведалі, што не варта ў гарадах высаджваць таполі. Яны сваім пухам засмечваюць паветра.

Таполя вельмі карыснае дрэва для чалавека. Яна за адно лета вырастае ўгору на два-тры метры. Не пераборлівая яна і да глебы. Была б вільгаць — і таполя будзе расці.

Дзяўчынка села.

— Малайчына Аленка! — задаволена сказаў Сярожаў бацька.

— А можна мне пра бамбук?

— Калі ласка, — дазволіў Генадзь.

— Аленка тут вельмі ўжо расхвальвала сваю таполю, — пачаў Славік, — а я скажу, што ёй далёка да бамбука. Ён жа за адзін дзень вырастае аж на два метры!

Ніводнае дрэва не дае столькі карысці чалавеку, як бамбук. З яго будуюць дамы, робяць гаспадарчы посуд, люлькі, кошыкі, трубы, мэблю, паперу высокіх гатункаў, зброю і нават іголкі для грампласцінак!

А маладымі парасткамі можна харчавацца як салатай. Са сцяблоў здабываюць салодкі сок, з якога робяць цукар. Ліхтары, музычныя інструменты, арматуру для бетонных збудаванняў таксама робяць з бамбуку. І яшчэ шмат чаго.

Сярожа сядзеў, падпёршы рукой шчаку. Ён так задумаўся, што не пачуў, як далі слова сястры Валі.



— У канцы 1641 года з Новага Свету вяртаўся ў Іспанію віцэ-кароль Перу Дон Луіс Граніма Кабрэра дэ Вабдзіла граф Цынхон, — бадзёра пачала Валя.

Усе здзіўлена глянулі на яе. Як яна запомніла такое мудрагелістае прозвішча таго графа? А Валя расказвала, як многа гадоў Цынхон кіраваў адной з самых багатых іспанскіх калоній у Новым Свеце і цяпер, вяртаючыся на радзіму на вялікім паруснiку, вёз каралю і сабе поўныя трумы скарбаў.

Акіян бушаваў. Гіганцкія хвалі кідалі карабель, як трэску. Каманда выбілася з сіл. А тут яшчэ цяжкая хвароба — гарачка. Яна выводзіла са строю матросаў. Віцэ-кароль доўга трымаўся, але і яго звaліла ліхаманка.

Курчачыся ў сутаргах, граф прыгадаў, як палявалі яго людзі на індзейцаў, што здабывалі ў нетрах Андаў таямнічыя лекі гарачкі. Яны трымалі ў сакрэце тое рэчыва. Жыццё аддавалі, а таямніцы захоўвалі.

Тады Цынхон загадаў на ўсіх дарогах і сцежках, што вялі ў тагачасную сталіцу Перу — Куска, зрабіць засады.

Так у рукі Цынхона трапіла кара невядомага дрэва. Ён першы з еўрапейцаў вёз яе ў Стары Свет, дзе ў той час лютавала малярыя.

Цынхон загадаў сваім слугам адшукаць сярод скрынак з золатам цудадзейную кару. Хутка яе прынеслі віцэ-каралю. Як ёю карыстацца, Цынхон не ведаў. Ён адкусіў кавалачак і паспрабаваў разжаваць. Пякельная гарката апаліла язык.

Карабель усё ж прыплыў да берагоў Іспаніі. Цынхон са скарбам і карой прыбыў у каралеўскі палац. Але сам быў зусім хворы. Па загаду караля яго лячылі самыя выдатныя дактары. Ад кары яны адмовіліся. Прымусілі Цынхона глытаць пылок егіпецкіх мумій. Тады лічылі, што гэта самы лепшы сродак ад малярыі. Хутка Цынхон памёр.

Іезуіты, да якіх трапіла кара, зрабілі з яе парашок. З яго дапамогай і сталі лячыць хворых на малярыю...

Дрэва, якое давала цудадзейную кару, індзейцы называлі „кіна-кіна“. Пасля яго пачалі называць хінным.




## КАНТЫНЕНТ 800 МОВАЎ

Падлічана, што народы Афрыкі карыстаюцца 800 мовамі. Напрыклад, у дзяржаве Чад, з насельніцтвам каля 4 мільёнаў жыхароў, можна выдзеліць 12 моўных груп. Нядаўна эксперты ЮНЕСКО пачалі працу над стварэннем аднаго алфавіта для ўсіх моваў гэтай краіны.

## ВАДА НА САХАРЫ

Калісьці Сахара была квітнеючай з буйнай раслінн асцю і багатым жывёльным светам. Аб гэтым сведчаць шматлікія археалагічныя адкрыцці: малюнкі на скалах у пячорах, руіны прастарых пасяленняў. Жыхары Сахары пакінулі гэтую зямлю, калі кліматычныя змены прыйшлі ў Сахару і пачалі ператвараць яе ў пустыню. Эксперты ЮНЕСКО сцвярджаюць, што значную частку Сахары можна вярнуць да жыцця, бо пад пустыняй існуюць вялізныя азёры салодкай вады.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЗВЯРОЎ

У дэкларацыі правоў звяроў ужо свая гісторыя. У 1972 годзе Жорж Хойзэ, прафесар біялогіі з Парыжа запрапанаваў уладам ЮНЕСКО першы апрацаваны экспертамі праект дакумента разам з петыцыяй, падпісанай 2,5 мільёнамі чалавек. У красавіку 1977 года створана была ў Жэневе Міжнародная федэрацыя правоў звяроў. А 28 студзеня 1978 года ў Бруселі адбылося пленарнае пасяджэнне, на якім афіцыяльна быў адкрыты сусветны год правоў звяроў. Было запрапанавана, каб на пачатку ўвядзення ў жыццё новага дакумента забараніць паляванні на малых цюленяў (фок) і кітоў; спынены былі паляванні на ваўкоў у Англіі; перасталі страляць галубоў у Францыі.

## ОРДЭН УСМЕШКІ

У маі гэтага года ў Польскім Інстытуце ў Стакгольме адбылася прыемная ўрачыстасць уручэння вядомай шведскай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн ордэна ўсмешкі. Ордэн гэты прызнаюць польскія дзеці. Пісьменніца атрымала гэты ордэн за цудоўную казку аб „Піпі Лянгштрумп“. Многія нашы дзеці памятаюць гэту казку па вельмі цікавым кінафільме.

## САМЫ ХАЛОДНЫ І САМЫ ГАРАЧЫ

Самым халодным месцам у паўночным паўшар'і прызнана сяло Аймякон у Якуціі. Тут запісана самая нізкая тэмпература мінус 69,8°. Гэтае месца называюць паўночным полюсам холада.

У савецкім Узбекістане знаходзіцца месца з самым гарачым месцам. Тут, у горадзе Тэрмез у 1914 годзе была запісана тэмпература + 49,5°. Гэта абсалютны максімум для СССР.



# У Палічнай

Дзень 16 кастрычніка ў школе ў Палічнай быў днём працы грамадскім чынам. Гэта было ўжо відаць здалёк. Вучні зграбалі залацістае лісце, сухія сцябліны і ламачча, потым распалілі вогнішча.

Дзяўчаткі ўвіхаліся ў школьным кветніку. Там яшчэ дацвіталі познія асеннія кветкі.

Частка дзяцей наводзіла парадак у сярэдзіне будынка. Там нядаўна памалявалі сцены. Хлопцы развешвалі на сценах партрэты і школьныя дапаможнікі. Частку з гэтых дапаможнікаў яны выконвалі самі. Дзяўчаткі палівалі ў класах і на калідоры вазоны: пеларгоніі, кактусы, каліі, папараці і філадэндраны.

Вучні добра працуюць не толькі ў сябе ў школе. Нядаўна чатыры дні дзеці капалі бульбу ў мясцовым філіяле кляшчэлеўскага СКР. Добра працавалі. Хвалілі іх там за работу.

У кастрычніку многія справы ў школе яшчэ арганізоўваліся. Рыхтавалася шклянка гарачага малака ці кавы для ўсіх дзяцей і бутэрброды. Запісваліся, а потым абмяркоўвалі працу школьных гурткоў. Пачынаў якраз працу фатаграфічны гурток. А гурток мастацкай самадзейнасці падбіраў рэпертуар. Напэўна, працуюць ужо ва ўсю. Жадаем ім поспехаў.

**Я. Целушэцкі**



**Дзеці з Кнарыдаў.** **Фота М. Шаховіча.**

## ЗАГАДКІ

Бела-жоўценькая кветка,
Іх у полі шмат улетку.
Ты на ёй паваражы
І, як зваць яе, скажы.
(рамонак)

Любіць ён, зялёненькі,
Пагуляць у хованкі.
Паміж лісця на градзе —
Вось яго шукайце дзе!
(агурок)

Пад галінкай употай
Парасончык жоўты
Замаскіраваўся —
Ад дажджу схаваўся.
(грыб)

## Пазнаёмімся

*

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 69, кв. 11, Оля Макась, 14 гадоў.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов н/Д., — 80, ул. Российская, дом 23а, кв. 31. Горбас Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

Рэгіна Пухлоўская, в. Пасечнікі Малыя 2, пошта 17-242 Арэшкава, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Віктар Філіповіч, в. Пасечнікі Малыя 5, пошта 17-242 Арэшкава, Беластоцкае ваяводства.



## АДГАДАНКА






**У верхняй частцы малюнка бачыш мост. Пашукай у ніжняй частцы кавалачкі, якімі можна было б гэты мост направіць.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.